Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і аблвыканкома.

Год выдання другі.

№ 60 (129) ЧАЦВЕР 14 САКАВІКА 1940 г.

Цана 10 капеек

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



# МІРНЫ ДАГАВОР ПАМІЖ СССР І ФІНЛЯНДСКАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

Учора ў Маскве падпісан мірны дагавор паміж СССР і Фінляндскай Рэспублікай. Сёння з 12 гадзін дня прыпыняюцца ваенныя дзеянні. Тыя задачы, якія ставіў перад сабой Совецкі ўрад, вырашаны. Безапаснасць нашых паўночна-заходніх граніц, асабліва безапаснасць найвялікшага ў свеце рабочага цэнтра — Ленінграда, поўнасцю забяспечана. Новае таржаства совецкай палітыкі міру будзе сустрэнута з велізарным задаволеннем не толькі ўсім совецкім народам, але і працоўнымі ўсяго свету.

Дагавор паміж СССР і Фінляндскай Рэспублікай стварае трывалыя ўзаемныя мірныя адносіны. Іх асноўнай умовай з'яўляецца забеспячэнне ўзаемнай безапаснасці, у тым ліку забеспячэнне безапаснасці гарадоў Ленінграда і Мурманска, а таксама Мурманскай чыгункі. У састаў тэрыторыі СССР уключаецца ўвесь Карэльскі перашыек з горадам Выбаргам (Віпуры) і Выбаргскім залівам, заходняе і паўночнае ўзбярэжжа Ладажскага возера з гарадамі Кексгольмам, Сортавала, Суоярві, рад астравоў у Фінскім заліве, тэрыторыя на ўсход ад Меркярві і горад Куолаярві, частка поўастравоў Рыбачага і Сярэдняга.

СССР атрымлівае ў арэнду на 30 год паўвостраў Ханко з прылягаючымі астравамі для стварэння там ваенна-марской базы, здольнай абараняць ад агрэсіі ўваход у Фінскі заліў. Фінляндыя абавязваецца, як было прадугледжана дагаворам 1920 года, не збудоўваць на сваім паўночным узбярэжжы ваенныя порты і не ўтрымліваць у гэтых водах ваенныя судны, акрамя дробных караблёў.

СССР атрымлівае права транзіту праз вобласць Петсамо ў Нарвегію і назад, як і права транзіту тавараў паміж СССР і Швецыяй.

СССР і Фінляндыя абавязваюцца не заключаць якіх-небудзь саюзаў, або ўдзельнічаць у кааліцыях, накіраваных супроць адной з дагаварваючыхся старон.

Такія асноўныя ўмовы мірнага дагавора. Яны поўнасцю адпавядаюць заяве, якую зрабіў глава совецкага ўрада тав. В. М. Молатаў у сваёй прамове па радыё 29 лістапада 1939 года:

«Адзінай мэтай нашых мераприемстваў з'яўляецца забеспячэнне безапаснасці Совецкага Саюза і асабліва Ленінграда з яго трох з палавінай мільённым насельніцтвам».

Верны сваёй задачы, сваёй мірнай палітыцы, совецкі ўрад ніколі не пасягаў на незалежнасць іншых дзяржаў. Аб гэтым красамоўна сведчыць уся гісторыя ўзаемаадносін з Фінляндыяй. З рук совецкага ўрада Фінляндыя атрымала прызнанне сваёй дзяржаўнай незалежнасці 31 снежня 1917 года. З таго часу магутная совецкая дзяржава захоўвала мірныя дагаворныя адносіны з сваім суседам, які далёка не заўсёды праводзіў палітыку павагі да правоў і інтарэсаў мірнага совецкага народа і рыхтаваў плацдарм для вайны пад самым бокам ля Ленінграда.

Разгарэўшаяся другая імперыялістычная вайна паставіла перад совецкім урадам настаяльную задачу забеспячэння дзяржаўных граніц. Гэта — доўг совецкага ўрада перад совецкім народам, які не хоча ўдзельнічаць у сутычках імперыялістычных дзяржаў, вядзе сваю самастойную палітыку і не дае ўцягнуць сябе ў вайну, якая нясе незлічоныя няшчасці народам свету. Дагаворы СССР з суседнімі прыбалтыйскімі дзяржавамі вырашылі задачу аховы совецкіх дзяржаўных граніц. Яны спрыялі ўмацаванню міру на ўсім усходзе Еўропы.

СССР прапаноўваў і фінляндскаму ўраду заключыць мірны дагавор на такіх умовах, якія былі-б у роўнай меры выгадныя для абодвух дзяржаў, не закраналі іх суверэнных правоў і забяспечвалі безапаснасць паўночна - заходніх граніц совецкай дзяржавы, у прыватнасці Ленінграда. Растлумачваючы задачы мірнага дагавора, якога дабіваўся совецкі ўрад, таварыш М. І. Калінін гаварыў:

«Наперакор тэндэнцыйным версіям, распаўсюджваемым кругамі, відавочна, не зацікаўленымі ў еўрапейскім міры, адзінай мэтаю ўказаных перагавораў з'яўляецца ўмацаванне ўзаемаадносін паміж Совецкім Саюзам і Фінляндыяй і ўмацаванне прыяцельскага супрацоўніцтва абодвух краін у справе забеспячэння безапаснасці Совецкага Саюза і Фінляндыі».

Гэтыя перагаворы, якія мелі месца ў кастрычніку - лістападзе 1939 года, як вядома, не былі даведзены да канца па прычынах, не залежачых ад Совецкага Саюза. Паспяховаму ходу перагавораў перашкаджаў тады ўплыў кіруючых кругоў некаторых еўрапейскіх дзяржаў, якія ні ў малейшай ступені не былі зацікаўлены ва ўстанаўленні трывалага і працяглага міру на ўсходзе Еўропы, а, насупроць, прыкладалі ўсе сілы для таго, каб распаліць ваенны пажар у гэтым кутку Еўропы і накіраваць агонь на Совецкі Саюз.

Англа-французскія імперыялістычныя кругі падбухторвалі Фінляндыю, як раней Польшчу і іншыя дзяржавы, да вайны з Совецкім Саюзам, абяцаючы «гарантыі» і падтрыманне ў гэтай вайне, сеючы ілюзіі, быццам пабудаваныя пры англа-французскай дапамозе ўмацаванні недаступны для Чырвонай Арміі.

Дастаткова было трох месяцаў ваенных дзеянняў, каб ад гэтых ілюзій не асталося і следу. Яны рассеяны разам з той густой і смярдзючай хмарай антысовецкага паклёпу і хлусні, якой прадажны англа-французскі друк прабаваў увесці ў заблуджэнне грамадскую думку ўсяго свету.

Доблесная Чырвоная Армія разбіла цвярдыні Карэльскага перашыйка, які англа-французская тэхніка абвясціла непрыступным. Натхнёныя патрыятычным парывам, байцы, камандзіры і палітработнікі Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота паказалі, што няма такіх крэпасцей, якіх не маглі-б узяць большэвікі, што Чырвоная Армія — надзейная абарона Совецкага Саюза і грозны меч для ўсіх яго ворагаў.

Праваліліся і планы англа-французскіх імперыялістаў на распальванне вайны на ўсім прасторы Еўропы. Не дапамаглі ні сумніцельныя выхадкі ў Лізе нацый, ні пагрозы, ні подкупы.

Ілюзіяй аказалася абяцаная некаторымі дзяржавамі дапамога. Дарэмна надрываўся імперыялістычны друк, склікаючы добраахвотнікаў на барацьбу супроць Совецкага Саюза. Спачуванне мільёнаў працоўных было на баку Совецкага Саюза. Ясна стала, што міжнародныя правакатары вайны клапоцяцца толькі аб тым, каб прадоўжыць усімі сродкамі становішча трывогі на ўсходзе, ваенных дзеянняў, барацьбы і варожасці.

Адбылося тое, што лёгка мог прадбачыць кожны чалавек, не асліплены жывёльнай злосцю і не адурачаны брахлівым буржуазным друкам. Совецкі Саюз, наперакор намаганням падпальшчыкаў вайны, забяспечыў сілай тую безапаснасць для сваіх граніц, якой ён не па сваёй віне не мог дабіцца ў мірных перагаворах. Але і ў змяніўшыхся ўмовах Совецкі Саюз верны мірнай сваёй палітыцы. Гэта паказвае ўсяму свету заключаны зараз мірны дагавор з Фінляндыяй. Адзіная, зараз вырашаная на паўночным усходзе, задача совецкай знешняй палітыкі — забеспячэнне безапаснасці Совецкага Саюза. Гэта дасягнута адходам да Совецкага Саюза Карэльскага перашыйка і паўночнага ўзбярэжжа Ладажскага возера, здачай Совецкаму Саюзу ў арэнду на 30 год паўвострава Ханко з марской тэрыторыяй вакол яго для стварэння там ваенна - марской базы СССР, здольнай абараняць ад агрэсіі ўваход у Фінскі заліў.

Совецкі народ дасягнуў таго, чаго хацеў. Ён абавязан у гэтым сваёй гераічнай Чырвонай Арміі, памяць аб подвігах якой будзе вечна жыць у совецкім народзе. Ён абавязан у гэтым мудрай і цвёрдай палітыцы свайго ўрада, які ніколі не паступіцца інтарэсамі совецкага народа і здолее настаяць на сваім для міру, безапаснасці і спакою совецкай краіны.

Мір таржаствуе на граніцах Совецкага Саюза. Гэта новая вялікая перамога сталінскай палітыкі міру. Яе з радасцю вітае ўсё перадавое чалавецтва, зацікаўленае ў спыненні злачыннай імперыялістычнай вайны. У бяссіллі павінны змоўкнуць паклёпнікі. Падпальшчыкі вайны пацярпелі жорсткае паражэнне. Яны страцілі адну з важнейшых сваіх баз у задумваемым паходзе супроць Совецкага Саюза. Совецкі Саюз стаіць непахісна як страж міру, як апора і надзея працоўных.

**(Перадавы артыкул «Праўды» за 13 сакавіка, прыняты па радыё).**

# Аб заключэнні мірнага дагавора паміж Совецкім Саюзам і Фінляндыяй

**На працягу 7—12 сакавіка ў Маскве адбываліся перагаворы паміж упаўнаважанымі СССР—Старшынёй Совета Народных Камісараў СССР і Народным Камісарам Замежных Спраў тав. Молатавым В. М., членам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР тав. Ждановым А. А. і камбрыгам тав. Васілеўскім А. М.—з аднаго боку, і ўпаўнаважанымі Фінляндскай Рэспублікі—Старшынёй совета міністраў Фінляндыі п. Руці Р., Міністрам Паасівіві Ю. К., генералам Вальдэн К. Р. і прафесарам Войнмаа В.—з другога, па пытанню аб спыненні ваенных дзеянняў і заключэнні мірнага дагавора паміж СССР і Фінляндыяй.**

**Перагаворы закончыліся падпісаннем 12 сакавіка 1940 года Мірнага Дагавора паміж Совецкім Саюзам і Фінляндыяй.**

**Тэксты Мірнага Дагавора і Пратакола да яго прыводзяцца ніжэй.**

# МІРНЫ ДАГАВОР
## паміж Саюзам Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік і Фінляндскай Рэспублікай

Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР, з аднаго боку, і

Прэзідэнт Фінляндскай Рэспублікі, з другога боку,

кіруемыя жаданнем прыпыніць узнікшыя паміж абодвума старонамі ваенныя дзеянні і стварыць трывалыя ўзаемныя мірныя адносіны,

пераконаныя, што інтарэсам абодвух Дагаварваючыхся Старон адпавядае вызначэнне дакладных умоў забеспячэння ўзаемнай безапаснасці, у тым ліку забеспячэння безапаснасці гарадоў Ленінграда і Мурманска, а таксама Мурманскай чыгункі,

прызналі неабходным заключыць у гэтых мэтах Мірны Дагавор і назначылі сваімі ўпаўнаважанымі:

Прэзідыум Вярхоўнага Совета:

Молатава Вячэслава Міхайлавіча, Старшыню Совета Народных Камісараў СССР і Народнага Камісара Замежных Спраў,

Жданава Андрэя Александравіча, члена Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР,

Васілеўскага Александра Міхайлавіча, камбрыга,

Прэзідэнт Фінляндскай Рэспублікі:

Руці Рысто, Старшыню Совета Міністраў Фінляндскай Рэспублікі,

Паасіківі Юхо Кусці, міністра,

Вальдэн Карла Рудольфа, генерала,

Войнмаа Вяйнэ, прафесара.

Азначаныя ўпаўнаважаныя, па ўзаемным прад'яўленні сваіх паўнамоцтваў, прызнаных састаўленымі ў належнай форме і ў поўным парадку, згадзіліся аб ніжэйнаступным:

### АРТЫКУЛ І.

Ваенныя дзеянні паміж СССР і Фінляндыяй прыпыняюцца неадкладна ў парадку, прадугледжаным прыкладаемым да гэтага Дагавора Пратаколам.

### АРТЫКУЛ ІІ.

Дзяржаўная граніца паміж СССР і Фінляндскай Рэспублікай устанаўліваецца па новай лініі, па якой у склад тэрыторыі СССР уключаецца ўвесь Карэльскі перашыек з горадам Выбаргам (Віпуры) і Выбаргскім залівам з астравамі, заходняе і паўночнае ўзбярэжжы Ладажскага возера з гарадамі Кексгольмам, Сортавала, Суоярві, рад астравоў у Фінскім заліве, тэрыторыя на ўсход ад Меркярві з горадам Куолаярві, частка паўвострава Рыбачага і Сярэдняга, згодна прыкладзенай да гэтага Дагавора карце.

Больш падрабязнае апісанне пагранічнай лініі будзе ўстаноўлена змешанай камісіяй з прадстаўнікоў дагаварваючыхся старон, якавая камісія павінна быць утворана ў 10-дзённы тэрмін з дня падпісання гэтага Дагавора.

### АРТЫКУЛ ІІІ.

Абедзве Дагаварваючыяся Стороны абавязваюцца ўзаемна ўстрымлівацца ад усякага нападу адна на другую і не заключаць якіх-небудзь саюзаў або ўдзельнічаць у кааліцыях, накіраваных супроць адной з Дагаварваючыхся Старон.

### АРТЫКУЛ ІV.

Фінляндская Рэспубліка выказвае згоду здаць Совецкаму Саюзу ў арэнду з штогодняй уплатай Совецкім Саюзам 8 мільёнаў фінскіх марак, тэрмінам на трыццаць год, паўвостраў Ханко і марскую тэрыторыю вакол яго радыусам у пяць міль на поўдзень і ўсход і ў тры мілі на захад і поўнач ад яго, і рад астравоў, прымыкаючых да яго, у адпаведнасці з прыкладзенай картай,—для стварэння ваенна-марской базы, здольнай абараняць ад агрэсіі ўваход у Фінскі заліў, пры чым у мэтах аховы марской базы Совецкаму Саюзу прадастаўляецца права трымаць там за свой кошт неабходную колькасць наземных і паветраных узброеных сіл.

Фінляндскі ўрад на працягу 10 дзён з моманту ўступлення ў сілу гэтага Дагавора выводзіць з паўвострава Ханко ўсе свае войскі, і паўвостраў Ханко разам з прылягаючымі астравамі пераходзіць у кіраванне СССР, у адпаведнасці з гэтым артыкулам Дагавора.

### АРТЫКУЛ V.

СССР абавязваецца вывесці свае войскі з вобласці Петсамо, добраахвотна ўступленай Фінляндыі Совецкай дзяржавай згодна Мірнага Дагавора 1920 года.

Фінляндыя абавязваецца, як гэта было прадугледжана Мірным Дагаворам 1920 года, не ўтрымліваць у водах свайго ўзбярэжжа Паўночнага Ледавітага акіяна ваенных і іншых узброеных суднаў, за выключэннем узброеных суднаў размерам менш 100 тон, якавыя Фінляндыя мае права трымаць без абмежавання, а таксама ўтрымліваць не больш 15 ваенных і іншых узброеных суднаў, таннаж якіх не павінен перавышаць 400 тон для кожнага.

Фінляндыя абавязваецца, як гэта было прадугледжана тым-жа Дагаворам, не ўтрымліваць у азначаных водах падводных лодак і ўзброеных паветраных суднаў.

Роўным чынам Фінляндыя абавязваецца, як гэта было прадугледжана тым-жа Дагаворам, не збудоўваць на гэтым узбярэжжы ваенных портаў, баз для ваеннага флота і ваенных рамонтных майстэрняў аб'ёмам больш, чым патрэбна для ўпамянутых суднаў і іх узбраення.

### АРТЫКУЛ VІ.

Совецкаму Саюзу і яго грамадзянам, як гэта было прадугледжана Дагаворам 1920 года, прадастаўляецца права свабоднага транзіту праз вобласць Петсамо ў Нарвегію і назад, пры чым у вобласці Петсамо Совецкаму Саюзу прадастаўляецца права ўстанаўлення консульства.

Грузы, правозімыя праз вобласць Петсамо з СССР у Нарвегію, а роўна грузы, правозімыя з Нарвегіі ў СССР праз тую-ж вобласць, вызваляюцца ад агляду і кантролю, за выключэннем толькі кантролю, неабходнага ў мэтах урэгуліравання транзітных зносін, а таксама не абкладаюцца таможнымі пошлінамі, транзітнымі і іншымі зборамі.

Упамянуты вышэй кантроль транзітных грузаў дапушчаецца толькі ў форме, захоўваемай у такіх выпадках па ўстаноўленых звычаях міжнародных зносін.

Грамадзяне СССР, накіроўваючыяся праз вобласць Петсамо ў Нарвегію і назад з Нарвегіі ў СССР, маюць права свабоднага транзітнага праезду на падставе выдаваемых адпаведнымі совецкімі органамі пашпартаў.

У захаванне дзеючых агульных палажэнняў совецкія не ўзброеныя лятальныя апараты маюць права падтрымліваць паветраныя зносіны праз вобласць Петсамо паміж СССР і Нарвегіяй.

### АРТЫКУЛ VІІ.

Фінляндскі ўрад прадастаўляе Совецкаму Саюзу права транзіту тавараў паміж СССР і Швецыяй і, у мэтах развіцця гэтага транзіту па найкарацейшаму чыгуначнаму шляху, СССР і Фінляндыя прызнаюць неабходным пабудаваць, кожная старана на сваёй тэрыторыі, па магчымасці на працягу 1940 года чыгунку, злучаючую горад Кандалакша з горадам Кеміярві.

### АРТЫКУЛ VІІІ.

Па ўступленні ў сілу гэтага Дагавора ўзнаўляюцца эканамічныя адносіны паміж Дагаварваючыміся Старонамі і з гэтай мэтай Дагаварваючыяся Стороны ўступяць у перагаворы для заключэння гандлёвага дагавора.

### АРТЫКУЛ ІХ.

Гэты мірны дагавор уступае ў сілу неадкладна па яго падпісанні і падлягае паследуючай ратыфікацыі.

Абмен ратыфікацыйных актаў будзе праведзен на працягу 10 дзён, у горадзе Маскве.

Гэты Дагавор складзен у двух арыгіналах, на рускай, фінскай і шведскай мовах кожны, у горадзе Маскве, 12 сакавіка 1940 года.

| | |
|---|---|
| *В. Молатаў,* | *Рысто Руці,* |
| *А. Жданаў,* | *Ю. Паасіківі,* |
| *А. Васілеўскі.* | *Р. Вальдэн,* |
| | *Вяйнэ Войнмаа.* |

# АПЕРЗВОДКІ ШТАБА ЛЕНІНГРАДСКАЙ ВАЕННАЙ АКРУГІ

**На працягу 11 сакавіка нашы часці закончылі акружэнне Выбарга і занялі ўсходнюю і паўночную часткі горада.**

**На заходнім беразе Выбаргскага заліва нашы часці паспяхова прасоўваюцца.**

**У раёне станцыі Лоймола чыгункі Суоярві—Сердаболь сутычкі пяхотных часцей.**

**Наша авіяцыя вяла актыўныя дзеянні па ваенных аб'ектах праціўніка. Пры гэтым збіта пяць самалётаў праціўніка.**

На працягу 12 сакавіка на фронце не адбылося нічога істотнага.

К 7 гадзінам раніцы 13 сакавіка нашы войскі пасля двухгадзіннага штурму занялі горад Выбарг.

На астатніх участках фронта да 12 гадзін нічога істотнага не адбылося.

У 12 гадзін па ленінградскаму часу баявыя дзеянні на ўсіх участках фронта, у адпаведнасці з мірным дагаворам, спынены.

# 24 САКАВІКА ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫЯ СОВЕТЫ СССР і БССР

## КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР ПА 336 ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ

# Ольга Кірылаўна Мазалеўская

*(БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС)*

Мяккае зімовае святло падае праз высокія вокны ў пакоі і залівае вялікі стол, пакрыты чырвоным бархатам, і радок крэслаў. Ля стала сядзіць ужо немаладая жанчына, апранутая ў простае цёмнае плацце, з белым карункавым ваўняным каўнерыкам. Цёмныя валасы, сцягнутыя вузлом, гладка прычосаны з праборам з левага боку. Яна сядзіць крыху бокам да акна, і на левай палове яе твара ляжыць лёгкі ледзь прыкметны цень. Вялікія блакітныя вочы прыветліва глядзяць на субяседніка. На твары лёгкая ўсмешка.



* * *

Ольга Кірылаўна Мазалеўская нарадзілася ў мястэчку Араны Віленскай губерні ў 1902 годзе, у сям'і небагатага селяніна, паляка па нацыянальнасці. У дзіцячыя годы яна бачыла не мала нястачы ў сваёй сям'і. З малых год пачала дапамагаць мацеры ў хатняй рабоце. Зімамі хадзіла ў школу.

Награнула імперыялістычная вайна 1914—1918 гадоў. Тысячы людзей вымушаны былі пакінуць свае хаты і шукаць новага прытулку. З гэтымі бежанцамі паехала ўглыб Расіі і сям'я Мазалеўскіх.

Падарожжа закончылася ў Маскве. Там Ольга нанялася работніцай на чарнільную фабрыку. Заробак быў невялікі, але даваў магчымасць існаваць і дапамагаць мацеры.

Ольга вышла замуж за салдата, селяніна-бедняка з вёскі Удзеньконь-1 і ў 1921 годзе выехала на радзіму мужа, у Польшчу. Гаспадарка ў іх была маленькая, усяго два гектары зямлі. Свайго хлеба ніколі не хапала. Жылі галодныя. Да таго-ж безліч пабораў зусім атручвалі і без таго цяжкае жыццё.

Вестку аб прыходзе Чырвонай Арміі Ольга Кірылаўна сустрэла з вялікай радасцю. Некалькі дзён выходзіла яна на дарогу сустракаць вызваліцеляў. І калі, урэшце, з-за прыгорка нечакана выкаціліся сталёвыя аграмадзіны баявых машын, на вачах паказаліся слёзы радасці.

— Усё! Мінулася пакутнае, галоднае жыццё, — мільгнула думка.

Ольга з удзячнасцю прыняла просьбу чырвонага камандзіра часці паказаць дарогу. Яна рада была чым толькі можна дапамагчы тым, хто вызваліў працоўнае сялянства ад здзекаў панскай улады.

Вёска ажыла. На сходзе выбралі сялянскі камітэт. Старшынёй камітэта селяне выбралі тав. Мазалеўскага — мужа Ольгі Кірылаўны. Пачалася пара вялікай грамадскай работы. Патрэбна было па-новаму будаваць жыццё. Ольга Кірылаўна прыняла актыўны ўдзел у рабоце сялянскага камітэта, выступала на сходах, працавала з агітатарамі. Яна заваявала заслужаны аўтарытэт у вакольных сялян.

Сяляне вёсак Удзеньконь — I Удзеньконь — II і іншых вёсак Замброўскага раёна на сваіх сходах вылучылі Ольгу Кірылаўну Мазалеўскую кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

Ольга Кірылаўна Мазалеўская, прайшоўшая цяжкі жыццёвы шлях працоўнай жанчыны, апраўдае давер'е выбаршчыкаў.

Выбаршчыкі 336 выбарчай акругі, аддавайце свае галасы за Ольгу Кірылаўну Мазалеўскую!

**В. Іваноў.**

## КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР ПА 355 ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ

# Нікалай Іванавіч Прохараў

*(БІЯГРАФІЧНЫ НАРЫС)*

Тав. Прохараў нарадзіўся ў сям'і кадравага шахцёра. Гэта было ў 1907 годзе, калі ўвесь Данецкі басейн знаходзіўся ў руках прыватнікаў. Выціскаючы «дзесяць патоў» з рабочых, капіталісты плацілі ім грошы. Па 14 гадзін у суткі стаялі людзі, часта па пояс у вадзе, вырубаючы горы вугалю. А калі выходзілі на паверхню, знясіленыя, яны кладліся ў пасцель нямытымі. Месяцамі не бачылі шахцёры гарачай стравы. Таму з'яўленне сёмага дзіцяці Нікалая не вельмі ўзрадавала сям'ю: лішні рот, лішняя вопратка і абутак.

З дзіцячых гадоў Нікалай пазнаёміўся з шахтай і палюбіў яе. Ён не раз спушчаўся пад зямлю, лазіў па штрэках, гутарыў з канагонамі, забойшчыкамі. А ў 13 год пачаў працаваць і дапамагаць сям'і сам.

У 1920 годзе Нікалай Прохараў уступіў у комсамол. Быў цяжкі для краіны час. На рэспубліку з усіх бакоў насядалі генералы. На Данбас часта нападалі бандыты. У гэты час у комсамол ішла моладзь, бязмежна адданая совецкай уладзе.

Прайшло чатыры годы. Краіна Советаў хутка залечвала раны, нанесеныя імперыялістычнай і грамадзянскай войнамі. Затопленыя за годы вайны шахты пачалі выдаваць тысячы тон вугалю «на-гара». Адноўленыя заводы плавілі чыгун, жалеза, сталь. У 1924 годзе Нікалай Прохараў паступіў у горнапрамысловую школу, якую скончыў праз два годы. Слесарам ён спусціўся зноў у шахту наглядаць за механізмамі, берагчы іх ад паломак і псавання. У 1927 годзе адбылася знамянальная падзея ў яго жыцці. Ён быў прынят у члены комуністычнай партыі.

Услед за гэтым яго прызвалі ў рады Чырвонай Арміі, дзе ён праслужыў тры годы. У 1933 годзе ён скончыў палкавую школу ў Маскве і пасля дэмабілізацыі астаўся працаваць у Маскве.

Неаднаразова партыя пасылала тав. Прохарава на розныя ўчасткі работы. То ў палітаддзел Мажайскай МТС, то на будаўніцтва падземнай чыгункі Маскоўскага метро, то на будаўніцтва мастоў-гігантаў праз Маскву-раку.

Працаваў сакратаром парткома на заводзе ім. Серго Орджанікідзе і, урэшце, сакратаром Кіраўскага райкома ВКП(б) Масквы.

Усюды ён апраўдваў ускладзенае на яго давер'е партыі.

У 1938 годзе Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай комуністычнай партыі большэвікоў накіраваў тав. Прохарава на партыйную работу ў Беларускую ССР. Ён працуе ў ЦК КП(б)Б, дзе ў сучасны момант з'яўляецца загадчыкам ваеннага аддзела.

У 1939 годзе саюзны ўрад узнагародзіў Нікалая Прохарава ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Такі жыццёвы шлях Нікалая Іванавіча Прохарава, да канца адданага партыі Леніна—Сталіна, соцыялістычнай радзіме большэвіка.

**Міх. Дымны.**

*Агратэхнічная кансультацыя*

# ДОГЛЯД ЗА АЗІМЫМІ Ў ЗІМОВЫ І ВЯСЕННІ ПЕРЫЯДЫ

Не гледзячы на неспрыяючыя метэаралагічныя ўмовы мінулага лета і восені, становішча азімых па Саюзу ў цэлым можа быць прызнана добрым і здавальняючым. Гэта вялікая перамога соцыялістычнага земляробства, абумоўленая ростам механізацыі і агратэхнікі, аб чым паўсядзённа клапоціцца партыя і ўрад.

Але ў радзе раёнаў была дапушчана дрэнная апрацоўка папараў і спазненне з заканчэннем сяўбы. Тут пасевы знаходзяцца ў дрэнным становішчы.

Нярэдка сутыкаешся з тым, што ў адным і тым-жа раёне і нават калгасе азімыя пайшлі пад снег: 1) добра распусціўшыміся; 2) у фазе 2—3 лістоў; 3) у фазе ўсходаў; 4) зрэджанымі ў выніку гібелі з восені асобных раслін, і, нарэшце, 5) зусім не даўшымі ўсходаў.

Такое стракатае становішча азімых на палях патрабуе да сябе асаблівай увагі ў зімова-веснавы перыяд.

Пры доглядзе за слабымі пасевамі азімых якое-небудзь адно мерапрыемства мала эфектыўна. Неабходны цэлы комплекс паслядоўных мерапрыемстваў, якія датычацца догляду за пасевамі ў асенні, зімовы і веснавы перыяды.

У гэтым артыкуле мы ўказваем прыёмы па догляду за пасевамі ў зімовы і веснавы перыяды.

Практыка паказала, што ў большасці выпадкаў азімыя гінуць на аголеных ад снегу ўчастках; снегавое пакрыццё ў 30—40 сантыметраў ужо абараняе іх ад любых марозаў. Такім чынам, снегазатрыманне адыгрывае выключную ролю, з'яўляючыся асноўным мерапрыемствам зімовай агратэхнікі.

Далейшае накапленне снегу да 60—70 і больш сантыметраў карысна як дадатковая крыніца вільгаці.

Асабліва старанна трэба правесці снегазатрыманне на ўчастках, дзе пасевы знаходзяцца ў фазе ўсходаў, або 2—3 лістоў, а таксама там, дзе ў выніку сухасці глебы насенне не ўзышло, але захавала ўсхожасць.

Вялікую небяспеку для перазімоўкі пасеваў прадстаўляе стварэнне ледзяной коркі. Яе неабходна разбурыць механічным спосабам. Асабліва небяспечна «прыцёртая» ледзяная корка, якая вызывае нярэдка поўную гібель азімых.

Калі ледзяное пакрыццё займае вялікія плошчы і механічны спосаб разбурэння становіцца цяжкім, то трэба прыняць меры або да паскоранага сходу лёду, або да ўкрыцця яго пластом снегу.

Вялікіх клопатаў патрабуюць азімыя вясной. У перыяд снегарастава́ння асноўная ўвага павінна быць накіравана на затрыманне талай снегавой вады, бо бурны сцёк яе па схілах палёў наносіць велізарную шкоду пасевам.

Змяншаючы эфектыўнасць снегазатрымання, патокі вады разам з тым зносяць верхні, самы пладародны пласт глебы, размываюць і агаляюць вузел кушчэння азімых, што павялічвае небяспеку гібелі ад вясенніх замаразкаў.

У паніжаных месцах патокі вясенніх вод з крутых схілаў наносяць на азімыя пасевы тоўсты пласт глебы, які для іх з'яўляецца згубным. Пазбегнуць гэтага можна шляхам збудавання снежных валаў упоперак схілаў і шляхам прыкатвання снегу (дзе гэта магчыма) вузкімі палоскамі, таксама папярок схілу.

Сустракаюцца ўчасткі, дзе снег зімой пад уплывам ветру накапляецца ў вялікай колькасці, у нізінах або ў месцах, абароненых ад ветру.

Калі гэтыя снегавыя заносы ляжаць на азімых палях, то яны могуць прынесці велізарную шкоду для азімых. На такіх участках глеба вясной паспявае поўнасцю адыйсці, расліны кранууцца ў рост, але, будучы пакрыты тоўстым пластом снегу, гінуць, або як кажуць, «выправаюць».

Калі гурбы па сваёй велічыні не вялікія, то іх проста можна раскідаць. Калі-ж заносы займаюць вялікія ўчасткі, то неабходна паверхню снегу папыліць сухой глебай таму, што выпадкі «выправання» азімых часцей сустракаюцца на паўночных схілах, на месцах, абароненых ад вятроў, а вясной ад сонца.

Магутны пласт снегу вясной звычайна выклікае з'яўленне вялікай снегавой вады і доўгае яе застойванне на палях. Азімыя, будучы затоплены вадой, моцна церпяць, нярэдка гінуць, або, як гавораць, «вымакаюць».

У такіх выпадках загадзя неабходна прыняць меры да ўдалення вады з пасеваў. Для гэтага праводзяць невялікія канаўкі для спуску вады ў нізіны. Каб пазбегнуць моцных размываў, гэтыя канаўкі неабходна рабіць не прамымі, а зігзагападобнымі. У тых-жа выпадках, калі ўчастак прадстаўляе катлавіну і спускаць вады няма куды, можа дапамагчы справе збудаванне вертыкальнага дрэнажа пры дапамозе глыбокіх шчылін.

Кожны год вясной мы знаходзім на палях участкі, размытыя стокам снегавой вады. На пасевах утвараюцца ў адных выпадках канаўкі і раўкі, а ў другіх выпадках—наносы зямлі. І тое і другое аднолькава шкодна для пасеваў.

Вясной, пры сходзе снегу, поле павінна быць прадметам штодзённага агляду. Патокі снегавой вады, якія намячаюцца на палях, павінны быць пастаянна рэгуліраваны, каб не дапусціць ні размываў, ні наносаў зямлі.

Вясной 1940 года павінны шырока прымяняцца такія выпрабаваныя прыёмы стаханаўскай агратэхнікі, як падкормка і баранаванне азімых. Падкормку трэба рабіць, як толькі сыйдзе снег, і, перш за ўсё, на тых участках, дзе пасевы знаходзяцца ў фазе ўсходаў, 2—3 лістоў або слабага кушчэння.

Асабліва неабходна падкармліваць насенныя ўчасткі, пасевы азімай пшаніцы і разрэджаныя пасевы жыта, якое яшчэ не распусцілася.

Баранаванне азімага жыта і пшаніцы трэба рабіць на масівах са здавальняючым і добрым становішчам пасеваў, а таксама на ўчастках з добра ўкараніўшыміся ўсходамі. Участкі са слаба ўкараніўшыміся раслінамі можна баранаваць толькі пасля папярэдняга выпрабавання. На пасевах, дзе сустрэнецца выпіранне раслін, неабходна прымяняць лёгкае ўкатванне.

Пасевы, моцна зрэджаныя ў мінулым годзе, поўнасцю або часткова падсяваліся яравымі культурамі. Але падсеў яравых да зрэджаных азімых выключае магчымасць прадпасеўнай апрацоўкі глебы і прыводзіць да дрэннай заправкі насення, моцнага засмечання палёў і зніжэння ўраджаю. Таму, як паказаў вопыт мінулага года, тыя ўчасткі, на якіх к вясне асталося вельмі мала раслін, лепш перасеяць раннімі яравымі. Крайне важна пры гэтым не спазніцца з перасевам і зрабіць яго ў раннія тэрміны, зрабіўшы папярэдняе добрае лушчэнне і баранаванне глебы, але не дапускаць глыбокае пераворванне.

Каб дакладней устанавіць участкі, якія падлягаюць перасеву, неабходна на працягу ўсяго зімова-веснавога перыяда ўстанавіць самае старраннае наглядзанне за становішчам аслабленых, зрэджаных азімых і за пасевамі азімых, не ўзышоўшых з восені, не дапускаючы агульнага рашэння пытання аб перасеве. Пытанне аб перасеве можа быць вырашана для кожнага асобнага ўчастка, або часці яго толькі пасля дэтальнай праверкі факта гібелі пасеву азімых.

У тых-жа выпадках, калі гібель пасеваў або моцнае зрэджанне адбудзецца вясной (што можа мець месца пры звароце халадоў на ўчастак з маладымі і вельмі слабымі ўсходамі) і тэрміны сяўбы ранніх яравых прайшлі ўжо, неабходна рабіць пасеў познімі яравымі, як, напрыклад, проса.

Калі насенне не дало з восені ўсходаў, але захавала сваю ўсхожасць, то, як паказала практыка мінулага года, яны дадуць усходы вясной. Аднак вясной гэтыя маладыя пасевы могуць моцна пацярпець і нават цалкам загінуць ад звароту замаразкаў. Таму на такіх участках неабходна праводзіць прыёмы, якія перашкаджаюць ранняму сходу снегу, а разам з гэтым і паяўленню маладых усходаў да звароту халадоў.

(«Социалистическое земледелие»).

# У КАЛГАСАХ ГРОДНЕНСКАГА РАЁНА

Недалёка ад гор. Гродна размешчана вёска Лікоўка. Па-новаму зажылі сяляне гэтай вёскі пасля прыходу Чырвонай Арміі. Зямля, якая раней належала памешчыку, раздана сялянам і батракам. Яны атрымалі 200 гектараў ворыўнай зямлі, а таксама коней, кароў.

Нядаўна ў вёсцы Лікоўка адбыўся агульны сход сялян, якія падалі заявы аб уступленні ў калгас. На агульным сходзе было выбрана праўленне і прынят статут. У калгас аб'ядналася 40 гаспадарак. Калгасу прысвоена імя вялікага Сталіна.

Да старшыні калгаса тав. Пулькевіча Рамана сяляне прыходзяць і прыносяць заявы аб жаданні ўступіць у калгас. За апошнія пяць дзён заявы паступілі яшчэ ад 10 гаспадарак.

На пасяджэнні праўлення калгаса абмеркавана пытанне аб падрыхтоўцы да сяўбы. Асабліва былі ажыўленыя спрэчкі, калі праўленне прыступіла да зацвярджэння кіруючых работнікаў. Брыгадзірам калгаса вылучан тав. Ларук, кладаўшчыкам тав. Стары, конюхам тав. Чубінскі. Гэта лепшыя актывісты, арганізатары калгаса.

Зараз калгаснікі сельгасарцелі імені Сталіна з вялікім уздымам узяліся за работу. Яны паспяхова рыхтуюцца да вясны. Ужо ачышчана і падрыхтавана да пасеву больш 500 пудоў насення. Арганізавана кузня, рамантуецца сельскагаспадарчы інвентар.

У былым маёнтку закончан рамонт калгаснай канюшні. Абагулена 50 коней. Конюх тав. Чубінскі наладзіў узорны догляд за коньмі. „Усе коні,— гаворыць тав. Чубінскі, — да веснавой сяўбы выйдуць у добрай укормленасці.

У раёне ўжо арганізавана 7 калгасаў. У райком партыі штодзённа прыходзяць сяляне з вёсак і просяць дапамагчы ім арганізаваць калгас. У сваіх заявах яны пішуць, што на прыкладах заможнага і радаснага жыцця калгаснікаў Совецкага Саюза яны цвёрда пераканаліся, што толькі калгасны лад выведзе сялян на шырокую дарогу радаснага і шчаслівага жыцця.

У сувязі з арганізацыяй калгасаў у вёсках абвастраецца класавая барацьба. Кулацтва ўсяляк імкнецца перашкодзіць стварэнню калгасаў. Так, кулак з вёскі Лікоўскі Нікодым Карней заходзіць у хаты да тых сялян, якія запісаліся ў калгас, і агітуе іх, каб яны выпісваліся. Такую-ж агітацыю праводзіць супроць калгасаў кулак Сцяпан Карней, дзядзька Нікадыма. Гэтыя кулакі ў двух маюць больш 50 гектараў зямлі.

Калгаснікі даюць рашучы адпор кулацкім вылазкам.

**В. Гарбанёў.**

